## ВАШ САД І АГАРОД

Матэрыялы выпуску падрыхтаваў да друку Мікалай ЧАХОЎСКІ (тэл. 32-41-92).

## Падкормім—не прагадаем!

Сад збіраецца ў даволі працяглую зімовую спячку. Неўзабаве ападзе лісце, выразна прыбавяць у «вазе» пупышкі. А каранёвая сістэма, пакуль не замерзне зямля, будзе інтэнсіўна працаваць на наш з вамі дабрабыт. Шмат патрэбнага для сённяшняга і будучага развіцця дрэва будзе назапашана і адкладзена ў шматлікіх «кладоўках» саміх каранёў, ствала, галінак, пупышак. Дададзім, што апошнія яшчэ развіваюцца, набіраючы неабходныя рэчывы для будучага цвіцення.

Так што ў садах работы спыняць ніяк нельга. Але і пазніцца няварта. Пад кожнае пладовае дрэва ўнясём каравяк, птушыны памёт, конскі ці трусіны гной. Лепш у растворах.

Робім гэта так. У бочку на 20 вядзёр укідваем тры вядры каравяку ці конскага гною або два вядры птушынага памёту. Дзень настойваем, перамешваючы. Затым дадаём попел — вядро на бочку. Усё старанна перамяшаем яшчэ раз. Раствор гатовы.

Па перыметры кроны (канец галінак) яблыні, грушы, вішні і слівы капаем ямкі на штык лапаты і 40 см у дыяметры. На яблыню і грушу такіх ямак да пяці, для вішні і слівы хопіць трох. Спачатку уліваем ваду—вядро. Калі зямля яе ўбярэ, льём вядро нарыхтаванага «прэпарату». Чакаем, каб у ямцы знікла вадкасць, і заліваем ваду яшчэ раз. Добра пакласці на дно ямкі па паўвядра кампосту і прысыпаць зямлёй.

Вось і ўсё. Ранняй вясной раскідаем азотныя ўгнаенні — салетру ці мачавіну. Доза — шклянка на два квадратныя метры.

Асенняя падкормка будзе сілкаваць дрэва амаль увесь вегетацыйны сезон. Плады будуць буйнымі, з добрымі смакавымі якасцямі.

Пасля першых вераснёўскіх маразоў лісце крыху пабурэла (асабліва на летніх сартах), дзе-нідзе скруцілася. Самы час апрацаваць яго асеннім «душам»—700 грамаў мачавіны на вядро вады. Працадзіць і апырскаць дрэвы. Шмат азоту возьмуць лісты, нешта дастанецца галінкам і пупышкам. Астатняе скарыстае зямля. Лісце, апрацаванае такім чынам, можна смела закладваць у кампост.



РАЯНІРАВАНЫЯ САРТЫ

## Мелба—прышэлец з-за акіяна

Гэта летні сорт. Яблыкі дастаткова буйныя. Трапляюцца экземпляры да 100—150 грамаў. А «серыйная» важкасць — 100 грамаў.

Плод некалькі выцягнуты, ярка афарбаваны ў малінавы колер. На зрэзе відаць зялёныя пражылкі. Яблык салодка-кіслы, вельмі сакавіты. Калі паляжыць два тыдні, становіцца мяккім, не трацячы пры гэтым іншых сваіх козыраў. Яго з задавальненнем ядуць усе — і пенсіянеры, і дзеці.

Сорт (радзіма яго Паўночная Амерыка) дастаткова ўраджайны. Вельмі рана дае першыя зборы — на трэцім-чацвёртым годзе пасля пасадкі на пастаяннае месца.

Прымае прышчэпкі многіх летніх сартоў — медунічкі, напрыклад. На жаль, баіцца паршы і розных гніляў.

Мелба раяніравана ва ўсіх абласцях, акрамя Віцебскай. Практыкі лічаць, што клімат нашай паўночнай вобласці для цеплалюбівай прыгажуні залішне суровы.

## Колькі разоў капаць зямлю?

Мусіць, чытачы здзівяцца, пачуўшы такое пытанне. Заўсёды сваё поле капалі двойчы — восенню і вясной. На гліністых і іншых «цяжкіх» глебах, магчыма, так і трэба. А чаму мы тузаем нашы супесі, суглінкі? Толькі шкода ад гэтага. Восенню розных шкоднікаў закопваем, каб яны не замерзлі, не загінулі, а вясной адкопваем—жывіце, пладзіцеся.

А між тым, многія чытачы бяруцца за рыдлёўку адзін раз у год — восенню. Яны як найглыбей капаюць дзялянкі, папярэдне ўнёсшы арганіку, тукі, попел ці вапну. Вясной робяць грады без перакопкі. Там, дзе будзе, скажам, расці морква, узрыхляюць зямлю віламі ці ручным культыватарам. Астатняе — як звычайна.

Пры такім метадзе эканомяцца сілы і час, паразіты, якія вылупіліся з яец, не выходзяць на паверхню (сіл не хапае), рэзка зніжаецца колькасць грыбковых хвароб, насенне раслін-драпежнікаў не атрымлівае неабходных умоў для развіцця і наогул гіне. Так што выбірайце...

## Прыпасы на зіму

Амаль дзевяць месяцаў мы ходзім у свае кладоўкі па бульбу, розныя караняплоды, капусту. Як жа ўсё гэта захаваць?

Першае і самае важнае — своечасовая ўборка. Сёлетняе спякотнае лета і вельмі рэдкія дажджы дачасна спынілі рост клубняў і караняплодаў. Зялёнае лісце, якое з'явілася пасля першых дажджоў, павінна насцярожыць: хутчэй за ўсё вашы выхаванцы пайшлі на «другі круг» развіцця: спрабуюць даць насенне. Вядома, гэтага дапускаць нельга, бо карані стануць грубымі, патрэсканымі. Іх лёгка доймуць хваробы. Ды і якасць на ступень ніжэйшая.

Бацвінне пасля копкі абразаем, пакідаючы яго ля караняплода (0,5 см). У час гэтай аперацыі адкладваем экземпляры пашкоджаныя ці захварэўшыя. Яны захоўвацца не могуць. Іх трэба выкарыстаць у першую чаргу.

Добра «паводзяць сябе» ў зімовы час, не псуюцца наступныя культуры: капуста Амагер і Беларуская, морква Шантанэ і Вітамінная; цыбуля сартоў Стрыгуноўская і Мячкаўская; бульба усіх беларускіх сартоў; буракі Бардо; рэпа Грыбаўская; рэдзька Зімовая круглая белая і чорная.

«Кватэры» для агародніны ладзяць у падвалах, на балконах, спецыяльных скляпах, у капцах, розных ямах. Неабходна памятаць, што найбольшыя страты, часам да палавіны, нясём з-за антысанітарных умоў. Злосныя ворагі ў месцах схованак — застойнае паветра, цвіль, грыбкі, павышаная вільготнасць (столі плачуць), іней і нават маразы.

Пазбавіцца ад многіх непрыемнасцей няцяжка. Ну хіба складана, скажам, пабяліць падвал? Для гэтага бяруць роўныя колькасці нягашанай вапны і меднага купарвасу, старанна перамешваюць. Раствараюць у гарачай вадзе. Крыху настойваюць і беляць пэндзлем.

Калі падлога земляная, яе пасыпаюць вапнай. Падвал абавязкова праветрываюць. Для вентыляцыі ўстанаўліваюць дзве трубы ў процілеглых кутках. У адным труба даходзіць амаль да падлогі, у другім — ля столі. Такое размяшчэнне садзейнічае руху паветра, ліквідуе яго застой.

Запомнім, што высокія тэмпература і вільготнасць адмоўна адбіваюцца на самаадчуванні агародніны. Плады інтэнсіўна дыхаюць, спрабуюць даць парасткі. Гэта вядзе да страт у вазе. Не далічваемся і вітамінаў. Высокая вільготнасць садзейнічае развіццю рознай цвілі, утварэнню кандэнсату на прадуктах.

Пажадана, каб слой бульбы быў метровым ці крышачку большым. Два метры — зашмат. Бульба будзе задыхацца. Вельмі добра захоўваецца «другі хлеб» у ямах (да 2 метраў), капцах. Туды не павінны пранікаць вада і мышы.

На бульбу насыпаюць буракі. Такі «інтэрнат» задавальняе абодва бакі. Моркву абавязкова перасыпаюць рачным пяском ці ўзятым з глыбокай ямы (ён не ўтрымлівае ўзбуджальнікаў хвароб). Кладзём рад морквы і засыпаем пяском да 1—2 см.

Капусту ўкладваем храпкамі ўверх у два-тры паверхі.

Цыбулю захоўваюць пасля старанай сушкі ў кардонных скрынках, кошыках ці мяшках. Можна сплесці ў косы. Тэмпература не ніжэй за 0 градусаў. Сявок укладваецца ў самы халодны, вентылюемы куток кватэры з тэмпературай да 17—18 градусаў цяпла.

Толькі капуста пры захоўванні вытрымлівае мароз у 1 градус. Морква, буракі, бручка, часнок, хрэн і гарбуз «сябруюць» з тэмпературай ад нуля да трох градусаў цяпла. Бульба на харчаванне захоўваецца на мяжы холаду—0,5—2 градусы цяпла.

Самыя «цёплыя» кватэры — для дыні і гарбуза. Яны патрабуюць плюс 10—14 градусаў і вільготнасці паветра да 76—80 працэнтаў.

## «...Затое танна, надзейна і практычна»

Танныя бронекамізэлькі з'явяцца хутка ў магазінах Расіі. Іх серыйная вытворчасць пачынаецца на базе аднаго з прадпрыемстваў Краснаярска.

Важыць бронекамізэлька не больш пяці кілаграмаў. Яе выраб не патрабуе складаных тэхналагічных аперацый, што ў дзесяць разоў змяншае яе сабекошт у параўнанні з тымі, што ўжо ёсць. Разам з тым, як паказалі выпрабаванні, бронекамізэлька надзейна ахоўвае ад выстралаў з блізкай адлегласці і ўдараў халоднай зброі.

РІД.

**Выканком Саюза журналістаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці старэйшага беларускага журналіста, ветэрана вайны і працы Андрэя Карнеевіча БУРАВА і выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**



## ШАШКІ

Пад рэдакцыяй майстра спорту М. Грушэўскага

**НОВЫЯ КОНКУРСЫ**

Працягваем нашы новыя рэспубліканскія конкурсы рашэнняў. Сёння прапануем **другія заданні:**

**Рускія шашкі**
**Конкурс № 93**



**Белыя:** простыя a1, c3, d2, e1, f2, g3, h2(7).

**Чорныя:** простыя a5, c7, d8, e5, g5, h4, h8(7).

Ход і выйгрыш белых (два ачкі).

Аўтар камбінацыйнай праблемы — **Пётр Шклудаў** (г. Наваполацк).

**Міжнародныя шашкі**
**Конкурс № 55**

**Белыя:** простыя 15, 18, 29, 35, 43, 48(6).

**Чорныя:** простыя 4, 7, 12, 19, 32(5).

Пачынаючы, белыя выйграюць (два ачкі).

Аўтар мініяцюры — Валянцін **Сцяпанаў** (г. Абаза).

**Шашкі + шахматы**
**Конкурс № 4**



**Белыя:** кароль h1, пешкі c3, e3, g3, простыя в2, d2(6).

**Чорныя:** простыя d4, e7, h4(3).

Белыя пачынаюць і запіраюць тры простыя чорных (адно ачко).

Аўтар гэтай казачнай задачы —**Віктар Шульга** (г. Мінск).

Яшчэ не позна ўключыцца ў конкурсы. Таму паўтараем **першыя заданні.**

**Рускія шашкі**



**Белыя:** простыя в4, d2, d4, g3, h4(5).

**Чорныя:** простыя в6, c7, e7, d6, g5(5).

Ход і выйгрыш белых (адно ачко).

**Міжнародныя шашкі**

**Белыя:** простыя 6, 25, 39, 41, 42, 49(6).

**Чорныя:** простыя 1, 12, 23, 24, 36, 40(6).

Пачынаючы, белыя выйграюць (два ачкі).

**Шашкі + шахматы**

**Белыя:** кароль c1, слон g3, конь a3, дамка e3, простая f4(5).

**Чорныя:** простыя в4, h6(2).

Белыя пачынаюць і запіраюць дзве простыя чорных (адно ачко).

Прыняць удзел можна ва ўсіх конкурсах ці ў адным з іх. Норма другога разраду — развязаць усе 12 заданняў, трэцяга — набраць 67 працэнтаў ачкоў у адным з конкурсаў. Акрамя таго, пераможцы кожнага конкурсу будуць адзначаны.

## НАДВОР'Е

### 30 верасня

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца халаднаватае з невялікімі дажджамі надвор'е. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 10—12, Мінску — 11—13, Гродна і Гомелі — 12—14, Брэсце — 13—15 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак месцамі пройдуць дажджы. Тэмпература паветра ўначы 1—6 градусаў цяпла, 1 кастрычніка па паўднёваму захаду замаразкі ад 0 да 2 градусаў марозу. Удзень 1 кастрычніка 8—13, 2-га — 6—11 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

## РАДЫЁ

### 1 кастрычніка

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 10.00, 15.00, 19.45, 23.00.

7.00 — «Радыёфакт». 8.05 — «Зона асаблівай увагі». 8.15 — «Вясковыя ростані». 9.15 — «Наш кастрычніцкі каляндар». Літаратурна - публіцыстычная перадача. 10.15 — для дзяцей. А. Зэкаў. «Дожджыкавы грыб». Вершы. 11.00 — «Ваша думка, ваша прапанова». 11.30 — «Чалавек. Грамадства. Закон». 11.40 — «Справа». Хроніка дзелавога жыцця». 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Старонкі класічнай музыкі». 15.15 — У. Глушакоў. «Расплата». Старонкі аповесці. Перадача 1-я. 16.05 — «На паявароце». 17.00 — «Эканамічны дзённік». 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — «Дзень нашага жыцця». 20.05 — вячэрняя казка. 21.00 — «Ад шчырага сэрца». 22.15 — «Беларусь і свет». Міжнародная праграма. 22.35 — «Юныя таленты Мінскага музычнага ліцэя». Канцэрт. 23.10 — «Мелодыі кахання». Эстрадны канцэрт. 0.00 — «Начны канал».

# БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 185—195).

Луіса Альберта ў офісе няма.

Пасля пахавання донны Алены Луіс Альберта часова перасяліўся на кватэру бацькі, таму што не можа знаходзіцца пад адным дахам з Марыянай. Смерць маці крыху заглушыла ў ім горыч крыўды на жонку. Адсунула яе часова на другі план. Да таго ж, дон Альберта катэгарычна адмаўляецца верыць у віну Марыяны і ўгаворвае сына ўсё добра абдумаць, перш чым прымаць рашэнне аб разводзе.

Марысабель, не знайшоўшы бацькі ў офісе едзе на кватэру дзеда. Дон Альберта адзін. Бачачы, як усхвалявана ўнучка, ён палохаецца: ці не здарылася бяды з Марыянай.

Прамое пытанне Марысабель застае дона Альберта знянацку. Вядома, ён ведаў, што дзяўчынку ўзялі з прытулка, але хто мог адкрыць ёй гэту тайну?

Пакуль ён раздумвае, што адказаць Марысабель, прыходзіць Луіс Альберта.

Луіс Альберта вярнуўся ў дрэнным настроі. Прыход дачкі ўзмацняе яго раздражненне. Марысабель апошнім часам ва ўсім абараняе Марыяну, а зусім нядаўна скардзілася яму на яе ледзь не кожны дзень. У яго наогул стварылася ўражанне, што ў сям'і ўсе аб'ядналіся вакол Марыяны, што існуе нейкая тайна, якую ведаюць і Марыяна, і Марысабель, і Марыя, і Рамона. Пра гэту тайну не ведае толькі ён.

Луіс Альберта не жадае размаўляць з дачкой і ідзе ў свой пакой.

### МАРЫЯНА

Калі Марыяна вярнулася дамоў, Рамона расказала ёй пра візіт незнаёмца і яго размову з Марысабель. Пасля гэтага дзяўчынка была сама не свая і пачала распытваць яе і Марыю пра сваіх сапраўдных бацькоў. Незнаёмец паведаміў Марысабель, што яе зусім маленькую ўзялі з прытулку. Зразумела, яны з Марыяй паспрабавалі пераканаць дзяўчынку, што словы незнаёмца — хлусня, але, здаецца, ім гэта не ўдалося. Марысабель паехала да Луіса Альберта, каб распытаць у яго.

Марыяна ўявіла сабе, у якім стане цяпер Луіс Альберта. Ён можа не ўтрымацца і адкрыць тайну, якую яны захоўвалі цэлых семнаццаць гадоў. Трэба тэрмінова ехаць да дона Альберта і паспрабаваць спыніць мужа.

Прыход Марыяны прыводзіць Луіса Альберта ў лютасць. Яна яшчэ патрабуе ад яго маўчання! Ну ўжо не, калі пакутуе ён, няхай пакутуюць і іншыя. І Луіс Альберта на пытанне Марысабель адказвае сцвярджальна. Так, яе ўзялі з прытулку, і яе родная маці не Марыяна, а Джаана Сміт.

Марыяна вядзе Марысабель дамоў. Гэтага Луісу Альберта яна не даруе ніколі.

Дома Марыяна расказвае дачцы гісторыю Джааны, якая ў нечым нагадвае гісторыю самой Марыяны. Марысабель яшчэ не здольная зразумець трагедыю жанчыны, якая вымушана сіламі абставін аддаць сваё дзіця ў прытулак. Але калі ўжо яе маці лічыць, што Джаана не вінавата, значыць, яна сапраўды не вінавата.

Проста ў яе цяпер будуць дзве маці.

### УКРАЛІ БЕТА

Бета хутка папраўляецца. Ён ужо гуляе па кватэры, але выходзіць на вуліцу мама Чоле яму не дазваляе.

Нечакана яго наведвае Лілі. Яны размаўляюць аб розных справах. На сеньёру Чоле Лілі робіць добрае ўражанне. Але ў галаве сеньёры Чоле зусім іншыя думкі: трывога за лёс Бета, трывога за ўласны лёс.

Скандал, які ўчыніў у іх доме Луіс Альберта, яшчэ ўзмацніў гэту трывогу. Ёй не спадабалася апошняя заява сеньёры Марыяны, што яна адвязе Бета за мяжу. А што будзе з самой Чоле? Як яна будзе жыць без Бета?

Не, гэта немагчыма. Яна не дапусціць, каб у яе адабралі сына. Няхай яна не родная маці, але яна яго выхавала, ахвяравала ўсім дзеля яго.

Сяброўка Чоле Феліпа раіць ёй тайком ад сеньёры Марыяны адвезці Бета з Мехіка. Можна, напрыклад, паехаць у Мантэрэй, дзе жыве сястра Феліпы. У яе вялікі дом, месца ўсім хопіць.

Але як пераканаць Бета ў неабходнасці гэтай паездкі, ды яшчэ тайком ад яго апякункі? Сяброўкі прыходзяць да вываду, што трэба спаслацца на пагрозы Луіса Альберта.

Бета спачатку не згаджаецца ехаць, тым больш, не папярэдзіўшы сеньёру Марыяну. Гэта будзе вельмі няўдзячна з яго боку. Ды і навошта мяняць цудоўную кватэру ў Мехіка на нейкі дом у наваколлях Мантэрэя? Аднак сеньёра Чоле настойліва ўгаворвае яго паехаць. Гаворка ж ідзе аб яго жыцці. Муж сеньёры Марыяны не супакоіцца. Вось чаму трэба ехаць тэрмінова і так, каб пра іх ад'езд ніхто не ведаў.

Феліпа прыносіць білеты на поезд. Хутка сабраўшы рэчы, сеньёра Чоле разам з сынам і сяброўкай адпраўляюцца на вакзал. Поезд адыходзіць увечары, але жанчыны вырашылі, што ім трэба неадкладна пакінуць кватэру. Вось-вось павінна прыйсці сеньёра Марыяна, а гэта парушыць усе планы.

Ужо на вакзале Бета знаходзіць магчымасць пазваніць сеньёры Марыяне. На жаль, Марыяны няма дома. Да тэлефона падыходзіць Рамона. Бета просіць яе перадаць, што маці і Феліпа вязуць яго вячэрнім поездам у Мантэрэй.

Рамона і Марыя пачынаюць шукаць Марыяну. Яны званяць Джаане, таму што Марыяна збіралася заехаць да яе, але там яе няма. Яны паведамляюць Джаане, як абстаяць справы з Бета, і Джаана, нягледзячы на тое, што на заўтра прызначана яе вяселле з Карласам, кідае ўсё і едзе ў дом Сальвацьера. Яна разумее, што Марыяну цяпер нельга пакідаць адну.

Марыяна ўгаворвае Марысабель пайсці разам з ёю да Бета. Дзяўчына з радасцю згаджаецца. Калі яна даведалася, што Бета ёй не брат, адразу пазваніла Умберта і разарвала заручыны. Прапанова Марыяны — гэта якраз тое, чаго хоча Марысабель.

На здзіўленне Марыяны, у кватэры нікога няма, няма там і рэчаў. Марыяна здагадваецца, што сеньёра Чоле павезла Бета ад яе. Спалохалася, што ў яе адбяруць сына і вырашыла яго схаваць. Марыяна ў адчаі. Яна не ведае, дзе шукаць сына. Марысабель суцяшае яе.

Вярнуўшыся дамоў, Марыяна даведваецца пра званок Бета. Ужо сем гадзін вечара, а поезд на Мантэрэй адыходзіць у восем. Трэба тэрмінова ехаць на вакзал, можна яшчэ паспець.

Аднак сеньёра Чоле зрабіла ўсё, каб не дапусціць сустрэчы Марыяны і Бета. Калі Марыяне ўсё ж удалося ўбачыць сына, поезд ужо крануўся.

У поўным адчаі ўдагонку адыходзячаму поезду Марыяна крычыць: «Бета, не ад'язджай, ты мой родны сын!» Бета чуе яе крык, але не можа зразумець сэнс слоў сеньёры Марыяны.

Ён пытаецца пра гэта ў мамы Чоле і Феліпы, але тыя робяць выгляд, што нічога не чулі.

Усё... Павезлі, укралі сына... Што цяпер рабіць, дзе шукаць яго? Марыяна страціла здольнасць думаць лагічна. Яна на бачыць выйсця. Боль, нясцерпны боль страты перапаўняе яе душу.

Джаана цудоўна разумее стан Марыяны, але працягвае шукаць спосаб вярнуць Бета. І знаходзіць яго. Што можа быць прасцей? Поезд у Мантэрэй прыбудзе толькі раніцай. Значыць, можна ўзяць білеты на бліжэйшы самалёт і апынуцца там намнога раней за поезд. Яны сустрэнуць Бета раніцай на вакзале ў Мантэрэі.

Калі яна прапануе гэта Марыяне, тая не ведае, як ёй за гэта дзякаваць. Зразумела, трэба ляцець у Мантэрэй бліжэйшым рэйсам.

Раніцай Марыяна і Джаана сустракаюць поезд з Мехіка. Бета вельмі здзіўлены і ўзрадаваны з'яўленнем сеньёры Марыяны на вакзале Мантэрэя. Марыяна, нарэшце, адкрывае сыну тайну яго нараджэння: сапраўдныя бацькі юнака яна і Луіс Альберта.

Бета здзіўлены шчырасцю сеньёры Марыяны. Гэта многае праясняе ў яе адносінах да яго. І ўсё ж ён вырашае спытаць у мамы Чоле.

Сеньёра Чоле спачатку ўсё адмаўляе, але потым прызнаецца Бета, што гэта праўда.

Марыяна дае Чоле слова, што, як бы ні склалася жыццё, прыёмная маці заўсёды будзе побач са сваім сынам.

Сеньёра Чоле верыць Марыяне, і яны вяртаюцца ў Мехіка.

### ЛУІС АЛЬБЕРТА

Луіс Альберта не знаходзіць сабе месца.

Ён зноў пачынае наведваць начныя ўстановы, піць. Аднак жанчыны не цікавяць яго. Для яго існуе толькі адна жанчына на свеце — Марыяна.

У адным з кафэ ён знаёміцца з танцаўшчыцай Вікторыяй. Яна вельмі прыгожая, але Луіса Альберта вабіць не столькі яе прыгажосць, колькі магчымасць хоць каму-небудзь выказаць усё.

Выслухаўшы гісторыю Луіса Альберта, Вікторыя хоча дапамагчы яму. Яна інтуітыўна становіцца на бок яго жонкі. Наўрад ці жанчына такога становішча выбера ў каханкі хлопчыка, ды яшчэ будзе ўтрымліваць яго дастаткова адкрыта. Не, тут штосьці не так. Луіс Альберта яўна памыляецца ў адносінах да сваёй жонкі, але як пераканаць яго ў гэтым?

На наступны дзень Луіс Альберта ўспамінае размову з Вікторыяй. Яе довады здаліся яму пераканаўчымі. Так, Марыяна дапамагае гэтаму хлопчыку, але што з гэтага вынікае?

Луіс Альберта вырашае адправіцца да Бета і пагаварыць з ім па душах. Ён просіць Вікторыю пайсці разам з ім, яна згаджаецца.

Прыход Луіса Альберта вельмі ўстрывожыў сеньёру Чоле. Добра, што Бета няма дома. Аднак сеньёр Сальвацьера супакойвае яе. Ён проста хоча задаць яе сыну некалькі пытанняў. Хутчэй за ўсё, у мінулы раз ён паводзіў сябе ў адносінах да хлопчыка дрэнна.

Сеньёра Чоле, супакоіўшыся за лёс Бета, гаворыць, што яе сын зараз у сеньёры Марыяны. І калі сеньёр Сальвацьера хоча ў яго аб нечым спытаць, то можа знайсці Бета ў сваім доме.

Гэта паведамленне дзейнічае на Луіса Альберта, як чырвоная ануча на быка. Вось да чаго дайшла Марыяна! Яна ўжо не саромеецца прывесці каханка ў яго ўласны дом. Не, ён гэтага не пацерпіць. Яны атрымаюць па заслугах.

Вікторыя адразу заўважае перамену ў настроі Луіса Альберта. Ён заяўляе, што Марыяна запрасіла каханка да сябе дамоў. Большай знявагі ён і ўявіць сабе не можа.

Вікторыі трэба спяшацца на работу, але яна разумее, што ў такім стане Луіс Альберта можа зрабіць непапраўнае. Яна ўпэўнена, што ён пойдзе да Марыяны, а чым гэта скончыцца — толькі Богу вядома. Таму Вікторыя звоніць дону Альберта і просіць яго неадкладна паехаць да Марыяны, таму што яго сын можа нарабіць шмат недарэчнасцей.

### СЯМЕЙНАЯ ПАРАДА

За вялікім сталом у доме Марыяны абедаюць пяць чалавек: Марыяна, Марысабель, Бета, Рамона і Марыя.

Бета вельмі скаваны. Яму яшчэ цяжка называць сеньёру Марыяну мамай.

Размова так ці іначай вяртаецца да Луіса Альберта. Марысабель лічыць, што Марыяна павінна адкрыць яму праўду. Марыяна пярэчыць. Муж вельмі зняважыў яе сваёй падазронасцю. Але бок Марысабель прымаюць Бета, Рамона і Марыя. Марыяна вымушана згадзіцца.

Абед закончыўся, Бета збіраецца дамоў.

### СТРЭЛ

Дзверы адчыняюцца, на парозе стаіць Луіс Альберта. У руках у яго пісталет. Марыяна кідаецца наперарэз мужу, але ён паспявае стрэліць. Другі стрэл яму зрабіць не ўдаецца. Руку сына перахоплівае дон Альберта, які ўвайшоў у гэту хвіліну. Марыяна пытаецца ў Бета, ці не паранены ён.

«Не, мама», — адказвае Бета.

Луіс Альберта зусім разгублены.

«Мама», «сын» — ён нічога не разумее.

Марыяна адводзіць мужа ў бібліятэку, і паміж імі адбываецца размова. Луіс Альберта ў поўным адчаі. Значыць, ён ледзь не забіў уласнага сына. Ён просіць прабачэння ў Марыяны. Марыяна даруе мужу.

«Ты гэта зрабіла дзеля сына?» — раўніва пытаецца Луіс Альберта.

«Дзеля вас абодвух», — адказвае Марыяна.

Муж і жонка выходзяць з бібліятэкі. Луіс Альберта падыходзіць да сына і цалуе яго. У доме Сальвацьера запанавала радасць.

Марыяна, Луіс Альберта і Бета едуць да сеньёры Чоле. Марыяна гаворыць ёй, што цяпер Бета будзе жыць у іх доме.

«А як жа я?» — пытаецца Чоле.

«І вы, і Феліпа будзеце жыць разам з намі. У нашым доме ўсім месца хопіць», — адказвае Марыяна.

Марыяна, Луіс Альберта, Марысабель і Бета вяртаюцца з вяселля Джааны і Карласа. Іх сустракаюць Рамона і Марыя.

«У мяне такое ўражанне, як быццам мы таксама толькі што пажаніліся», — гаворыць Луіс Альберта і цалуе Марыяну.

Бета і Марысабель ідуць у другі пакой. Яны вяртаюцца з бакаламі шампанскага.

Шчаслівыя Марыяна і Луіс Альберта бяруць бакалы з рук сваіх дзяцей.

«А ты хацела б, каб цябе кахалі так, як бацька кахае маці?» — пытаецца Бета ў Марысабель.

«Якая ж дзяўчына гэтага не захоча», — адказвае яна.

«Тады ўсё будзе залежаць толькі ад цябе», — сказаў Бета.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 30 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

**14.05.** «Я помню дзіўнае імгненне...» Фільм-канцэрт.
**14.55.** Навукова - папулярныя фільмы «Тайна затанулага горада», «Пекла над воблакамі».
**15.55.** «...І хлеб, і песня». Фільм-канцэрт.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Кот Леапольд у сне і наяве». Мультфільмы.
**16.55.** Футбол. «Дынама» (Мінск) — КІМ (Віцебск).
**18.50.** «Музыка шкла». Кінанарыс.
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Роднае слова.
**19.50.** Геракл. Культурызм—спорт для ўсіх.
**20.25.** Паэтычная гасцёўня. Новыя вершы чытае Галіна Каржанеўская.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** «Чорная ружа—эмблема маркоты, чырвоная ружа—эмблема любві». Маст. фільм 1-я і 2-я серыі. У перапынку **(22.30)** —НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.05.** Наш музычны клуб.
**16.45.** Як дабіцца поспеху.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.10.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.55.** Кніжны двор.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Фільмы рэжысёра А. Вайды. «Попел». 2-я серыя.
**21.50.** «Чорная скрыня».
**22.15.** Футбол. Еўрапейскія кубкі.

**Канал «Расія»**

**11.35.** Рэтра. «Пявучыя гітары».
**11.50.** «Санта-Барбара».
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.20—13.30.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**15.00.** Бізнес: новыя імёны.
**15.15.** Мульці-пульці.
**15.30.** Хрысціянская праграма «Вялікія пытанні жыцця».
**16.00.** «Погляд з аркестра». Аб творчасці М. С. Галаванава.
**16.45.** Там-там навіны.
**17.00.** «Далёкі Усход».
**17.45.** М-трэст.
**18.00.** «Давайце разбяромся».
**18.15.** Апазіцыя.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Санта-Барбара».
**20.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**20.40.** На сесіі ВС Расіі.
**21.05 і 22.20.** Футбол. Кубак УЕФА. «Рапід» (Вена) — «Дынама» (Кіеў).
**23.10.** «Стракаты кацёл». Эстрадная праграма (Германія).

### 1 кастрычніка

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Чорная ружа — эмблема маркоты, чырвоная ружа—эмблема любві». Маст. фільм 1-я і 2-я серыі.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Прыродазнаўства. 3-ці клас.
**17.00.** Сёння—Міжнародны дзень пажылых людзей. «Дабрадзея».
**18.00.** Як пачаць уласную справу. Дыялог амерыканскіх бізнесменаў.
**18.30.** Абласныя навіны (Гродна).
**18.40.** Зачытайце маё пісьмо...
**18.45.** Міжнародны дзень музыкі. Святочны канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі. У перапынку — Калыханка.
**21.15.** Панарама.
**21.40.** Да нацыянальнага свята кітайскага народа. Выступленне Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі Ван Сінда.
**21.50.** Тыдзень беларускага ўрада.
**22.15.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок» прадстаўляе... Дабрачынны канцэрт гуртоў «Уліс» (Мінск) і «Холі Джой» (Лондан).
**23.40.** НІКа.

**Канал «Астанкіна»**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Ранішняя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.50.** «Мы малюем». Мультфільм.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** «Багатыя таксама плачуць».
**9.50.** Дак. фільмы.
**10.20.** Наш музычны клуб.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** «Ад'ютант яго правасхадзіцельства». 3-я серыя.
**12.35.** «Каўбой». Фільм-балет.
**12.55.** «Звон адыходзячага лета». Маст. фільм. 2-я серыя.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.10.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**16.00.** «Гісторыя і людзі». Мастацка-публіцыстычная праграма.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** «Мелодыі сонечнага краю». Канцэрт казахскай музыкі.
**17.50.** «Казка на колах». Мультфільм.
**18.05.** «Багатыя таксама плачуць».
**18.50.** Дак. фільм «...На маім вяку...»
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Лато «Мільён».
**21.05.** Прэм'ера рубрыкі: «Кожны аб сваім».
**21.20.** Да Міжнароднага дня музыкі. «Адраджэнне».
**23.00.** Навіны.
**23.20.** Тэлескоп.
**23.25.** «Формула кахання». Маст. фільм.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Час дзелавых людзей.
**7.50.** Вольны час. «Календыянер».
**8.05.** Народная песня ў творчасці замежных кампазітараў. Дж. Гершвін.
**9.05.** Футбол. Кубак УЕФА. «Рапід» (Вена) — «Дынама» (Кіеў).
**10.40.** Кіпрас Мажэйка. Рэпартажы з НАТА.
**11.10.** «Жыццё-быццё».
**11.50.** «Санта-Барбара».
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**15.00.** Сігнал.
**15.15.** Мульці-пульці.
**15.45.** Пілігрым.
**16.45.** Там-там навіны.
**17.00.** Рэтра. Спявае Уладзімір Макараў.
**17.15.** «Як жывеш, Уфа?»
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Санта-Барбара».
**20.20.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**20.30.** Невядомая Расія. Да 100-годдзя з дня нараджэння М. Цвятаевай.
**21.00.** Ціхі дом.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Спартыўная карусель.
**22.25.** З залы Канстытуцыйнага суда Расіі.
**22.55.** На сесіі ВС Расіі.
**23.25.** Ціхі дом (працяг).

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), А. ЦІХАНОВІЧ, С. ШАЎЦОЎ.

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52, 32-41-92, навін —32-60-13, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 196.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.00.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12